Адна зямля
Мядзел
Астравец
Смаргонь
Вілейка
Ашмяны
Маладзечна
ожын
Мінск

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.

1 жніўня 2014 года №31 (1005)

**Спякотныя дні на Нарачы: вэнджаны вугор за паўмільёна**
“Каб такое лета, як у ліпені, ды тры месяцы было. Во б мы зажылі”
старонкі 20-21



**“Мы паставім палаткі і будзем тут сядзець”**
Так кажуць дзеці, якія непакояцца за сваю пляцоўку перад домам №29 па Віленскай. Тут плануюць пабудаваць яшчэ адзін дом
старонка 2

**Будуюць экалагічны дом для медыкаў** с. 3

**Двухгадовы хлопчык выпаў з акна пятага паверха і загінуў** с. 4

**Байкер: “Сыну няма двух гадоў, а матацыкл заводзіць умее”** с. 5

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Бібліятэка запрацуе ў Палацы культуры

**МАЛАДЗЕЧНА.** Ад 5 жніўня ўсе чытачы цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Багдановіча змогуць узяць кнігі ў памяшканні кас Палаца культуры. Часовы пункт выдачы кніг будзе працаваць па аўторках і серадах з 10.00 да 18.00. Акрамя самай запатрабаванай літаратуры, якая будзе знаходзіцца ў памяшканні кас, неабходную літаратуру можна будзе замовіць у бібліятэкараў. Нагадаем, што ў чытальнай зале бібліятэкі 27 мая абрынулася столь.

### Зачыняюць школу

**АСТРАВЕЦ.** Ад 29 жніўня на Астравеччыне зачыняюць Дайлідскую базавую школу. Напрыканцы навучальнага года ў ёй было 48 дзяцей і працавалі 23 работнікі. Школа не адпавядае гігіенічным патрабаванням і правілам пажарнай бяспекі. Гэта і стала асноўнымі прычынамі для яе закрыцця. 42 школьнікі будуць вучыцца ў СШ №1 Астраўца. Выдзяляць дадатковы аўтобус для падвозу гэтых дзяцей. Тры настаўнікі звольніліся, адзін выйшаў на пенсію, сем будуць працаваць у СШ №1 і гімназіі №1 Астраўца.

### Хлопчык трапіў пад колы начальніка ДАІ

**ВІЛЕЙКА.** У ДАІ Мінскай вобласці пацвердзілі факт наезду на 12-гадовае дзіця, піша Tut.by. Здарэнне адбылося на нерэгулюемым пераходзе ў Вілейцы апоўдні 29 ліпеня. Хлопчык на ровары раптоўна для кіроўцы выехаў на пераход. Якраз у гэты час агляд закрываў грузавік “Мерседэс”, які выязджаў на галоўную дарогу. За рулём “Нісана”, які збіў хлопчыка, быў начальнік аддзела ДАІ Вілейскага раёна. Праводзіцца праверка. Хлопчыка агледзелі медыкі і адпусцілі дадому. Ён атрымаў удары і драпіны.

**Аддзел інфармацыі.**



# Памяць – гэта не манументы

**ВІЛЕЙКА. Так лічыць Барыс Цітовіч, які аднаўляе вайсковае пахаванне часоў Першай сусветнай вайны ў Забродздзі.**

Сёння, калі вы прыедзеце ў Забродздзе, што на беразе Нарачанкі, і наведаеце згаданае пахаванне, то ўбачыце 99 акуратных узгорачкаў. Усе яны абкладзеныя камянямі, ці не на кожным стаіць крыж. На некаторых напісаныя імя і прозвішча таго, хто там спачывае.

– Калі мы з жонкай Валянцінай у 75-м годзе прыехалі ў вёску жыць, працаваць, я і не думаў займацца гэтай тэмай. Зусім, – прыгадвае Барыс Цітовіч. – Я мастак. І хацеў быць бліжэй да народа, да прыроды. Калі даведаўся пра гэтыя магілкі, тут быў поўны занядпад. Магіл амаль не было відаць, толькі ўзгорачкі і вось гэты бруствер па перыметры.

**У часы Першай сусветнай тут месціўся лазарэт 29-й пяхотнай дывізіі 20-га армейскага корпуса 2-й расійскай арміі.**

Барыс Цітовіч застаў у вёсцы двух удзельнікаў Першай сусветнай вайны: **Рыгора** і **Івана Шупляковаў**. Першы два гады правёў у палоне, а другі быў у ахове стаўкі галоўнакамандуючага цара Мікалая II.

– Я ж дурны тады быў! Мастацтва ў галаве сядзела! Мне трэба было б добра распытаць пра ўсё. А я так: штосьці даведаўся, нейкія здымкі дастаў. Ні галава, ні сэрца не былі падрыхтаваныя да ўспрыняцця гэтай тэмы, – тлумачыць мастак.

Аднак з людзьмі Барыс Барысавіч гутарыў. Як казалі старыя, тут стаяла брама з надпісам “Спіце спакойна, Радзіма вас не забудзе”. Пляцоўка, дзе сёння капліца, была вольная. Таму капліцу там і пабудавалі напрыканцы 80-х гадоў.

– Потым я дазнаўся ад вяскоўцаў, што ў 1939 годзе нехта з родзічаў пахаваных тут салдат прыехаў і паставіў драўляныя крыж. У той час на магілах яшчэ стаялі крыжы, на іх былі пазначаныя прозвішчы, даты смерці і вайсковае званне. Там, дзе сёння цягнецца ланцуг і абазначае межы, была агароджа з ацынкаванага дроту. Старыя прыгадвалі, што заяц бы не пралез.

Дзе ж дрот дзеўся? Яго на цвікі паселкі. А калі крыжы паваліліся, ніхто не стаў іх падымаць. Як і перапісваць прозвішчы.

– Дзякуй Вілейскаму прафесійна-тэхнічнаму каледжу, яго дырэктару **Ігару Кіцікаву**, майстрам і дзецям. Яны дапамаглі абкласці ўсё камянямі. Два месяцы і сем дзён мы з імі аддалі гэтай справе. Я глядзеў і думаў. Закінулі магілкі, ніхто ім не кланяўся, а тут хлопцы з дня ў дзень поўзалі на каленях, паклоны адбівалі. І я разам з імі, стары, – усміхаецца Барыс Цітовіч. – Цяпер гэта стала агульнай справай. І я адчуваю, што хутка зноў змагу займацца мастацтвам. Хаця мастакоў многа, спраўляюцца і без мяне.

– Калі мы гаворым пра памяць, – сказаў пад канец нашай размовы Барыс Барысавіч, – то гэта ўсё ж не манументы. Каб не здарылася, што манумент, на самой справе, мы зрабілі для сябе, а не абаронцам Айчыны.

**Настасся РОЎДА.**

Фота Настассі РОЎДА.

Беларускі мастак Барыс Цітовіч. Сын вайскоўца. Нарадзіўся ў Расіі.



Фота Настасі РОЎДЫ.

Пакуль што дзецям з дома №29 па Віленскай у Маладзечне ёсць дзе гуляць. Аднак хутка побач пачнецца будоўля.

КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# "Мы паставім палаткі і будзем тут сядзець"

**МАЛАДЗЕЧНА. Так кажуць дзеці, якія непакояцца за сваю пляцоўку перад домам 29 па Віленскай. Тут плануюць пабудаваць яшчэ адзін дом.**

Дом, пра які ідзе гаворка, з'явіўся чатыры гады таму. І не паспелі людзі абжыцца, дачакацца, пакуль ён дасць усадку, як да іх падступае новая хваля будаўніцтва.

### "Я не магу выкінуць 80 дзяцей на вуліцу"

Старшыня кааператыва **Глафіра Георгіеўна** прадстаўляе інтарэсы жыхароў дома. Агулам тут жывуць 184 чалавекі і яшчэ два ў праекце. Спадарыня Глафіра перажывае не толькі за свайго ўнука, які гуляе на гэтай пляцоўцы. Яе турбуе бяспека і выгоды ўсіх дзяцей з гэтага дома.

– Іх 82, калі не ўлічваць 16-гадовых, – акцэнтуе спадарыня Глафіра і працягвае:

– Я не магу іх пакінуць без двара. Вы, пакуль ішлі да нас, бачылі хоць адну пляцоўку?

Рытарычнае пытанне. За дзіцячай бальніцай на шляху да гэтага дома іх няма амаль нідзе. З-за гэтага ўсе дзеці з раёна збіраюцца менавіта тут. Дзе шмат месца, вялікая пляцоўка, а за ёй – траўка.

– Дрэвы хацелі пасадзіць, але не дазволілі. У нас тут заўсёды ёсць людзі, – працягвае Глафіра Георгіеўна. – Да вечара меншыя дзеці гуляюць, а пасля ўсю ноч моладзь на арэлях гушкаецца. Мы не скардзімся, нам не шкада. Абы не ламалі нічога.

Старшыня кааператыва добра знаёмая з планам забудовы ўчастка зямлі за дзіцячай пляцоўкай. І ў яе наспела некалькі найбольш актуальных для жыхароў пытанняў.

### Пад'езд да дома

Як распавяла Глафіра Георгіеўна, у праекце пазначана, што ад другога пад'езда будзе цягнуцца цеплатраса да гэтага дома. Значыць, двор будзе перакапаны. Пытанне: як людзям пад'ехаць да дома? Як пад'ехаць "хуткай" у выпадку чаго?

### Дзіцячая пляцоўка

Ніякай іншай для запланаванага дома фактычна не прадугледжана.

– Іх дзеці будуць гуляць на нашай, кошт якой увайшоў у крэдыт, што мы будзем яшчэ шмат гадоў выплачваць. Ізноў жа, не шкада. Проста дзяцей вельмі шмат і ім не хапае месца, – тлумачыць старшыня кааператыва.

### Паркоўка

Для новага дома па нарматывах прадугледжана пяць месцаў для паркоўкі. І жыхароў непакоіць, дзе будуць яны ставіць свае аўто.

– Ды і дом будзе стаяць так блізка. Нам давядзецца глядзець адзін аднаму ў вокны. Як увогуле можна на такім невялічкім кавалачку зямлі будаваць дом? Жыхары катэгарычна супраць разбурэння пляцовак, разбурэння ўсіх камунікацый, якія ў нас ёсць. Час ідзе і ўносіць карэктывы. Калі тут не атрымліваецца, то значыць, трэба шукаць іншы ўчастак зямлі. Ну, чаму трэба парушаць правы гэтых дзяцей? Чаму нельга нашым людзям прыйсці і пасядзець тут, у цяньку, – падагульняе Глафіра Георгіеўна.

**У сераду, 30 ліпеня, на дзіцячай пляцоўцы перад домам 29 сустрэліся яго жыхары з тымі, хто зацікаўлены ў будаўніцтве.**

На сустрэчу прыйшлі галоўны інжынер праекта **Аляксандр Халецкі** (ЗАТ "Будпраект"), галоўны інжынер будаўнічай фірмы "Чысць-бау" **Анатоль Суткаленка** (падраздзяленне холдынгу "Забудова"), намеснік гендырэктара холдынгу "Забудова" **Максім Бахаўчук**, інжынер грамадскакансультацыйнага савета холдынгу "Забудова" **Валеры Сасновіч**.

### "Давядзецца пацярпець"

Яшчэ ў 2008 годзе распрацавалі дэталёвы план забудовы горада, распавёў галоўны інжынер праекта Аляксандр Халецкі. План зацвердзілі. Ім жа было прадугледжана будаўніцтва гэтага дома. І сёлета па просьбе "Забудовы" яго запраектавалі. Экспертызу правялі і, згодна з ёй, усе нормы вытрыманыя.

– Жыхароў зразумець можна, – кажа Аляксандр Халецкі. – Забудова ідзе не толькі ў Маладзечне, паўсюль з'яўляюцца падобныя праблемы. На час будаўніцтва адназначна дзесьці перакрыюць дарогі, пад'езды. Цяпер мы зрабілі праект на дом. Далей ідуць праектна-інжынерныя сеткі. І дзе парушацца пад'язныя дарогі, там будуць зробленыя месцы для аб'езду.

Дом, які плануюць пабудаваць, – на адзін пад'езд. Разлічаны ён на 20 кватэр. Сярод іх адна, двух- і трохпакаёўкі.

– Мы ўсё разумеем, але ж дамы будаваць трэба. Не ўсе ж за горад выносіць. Тым больш, што ён быў у плане. Калі дом гэтых жыхароў будавалі, ён таксама агароджваўся, камусьці ствараў няўручнасці. Так і тут. Давядзецца пацярпець. Затое потым усё адновяць, зробяць дадатковыя дзіцячыя пляцоўкі, вернуць тыя, што былі.

### "Трэба больш працаваць з людзьмі"

Будаўніцтва дома па плане разлічана на семвосем месяцаў. І жыхароў турбуе, што ўвесь гэты час дзецям пад вокнамі будзе небяспечна. Побач пачне працаваць кран, спакойна не пагуляеш.

– Пытанні, якія турбуюць жыхароў, вырашацца, – упэўнены галоўны інжынер будаўнічай фірмы "Чысць-бау" Анатоль Суткаленка. – Яны вельмі часта паўстаюць у мікрараёнах забудовы. І вырашаюцца адпаведна з нарматывамі. Пасля таго, як дом пабудуюць, стане яшчэ лепш, чым сёння.

Анатоль Суткаленка дадаў, што, на яго думку, малую архітэктуру варта дадаць. Аднак дадатковых месцаў для паркоўкі не будзе. Па нарматывах не прадугледжана машына на сям'ю. І нават адна на дзве. А толькі на чвэрць кватэр дома.

– Гэта бяда ўсіх жыхароў нашай краіны, але нічога не зробіш. Нарматывы не мяняліся. Мы будзем імкнуцца рабіць усё з мінімальнымі нязручнасцямі для людзей. Трэба больш сустракацца, з жыхарамі працаваць, тады ўсе пытанні вырашацца.

**Настасся РОЎДА.**

ЗДАРЭННІ

# Двое дзяўчат патанулі ў возеры на Вілейшчыне

**ВІЛЕЙКА. Трагедыя адбылася 26 ліпеня на Слабадскім возеры, што на Вілейшчыне. Дзве 20-гадовыя дзяўчыны патанулі, плаваючы на матрацы.**

Распавядае начальнік Вілейскай выратавальнай станцыі **Аляксандр Роўда:**

– Паведамленне пра тое, што патанулі двое дзяўчат – адна жыхарка курортнага пасёлка Нарач (Купа), другая – з вёскі Жалезнікі Мядзельскага раёна, – выратавальнікі атрымалі а палове дзясятай вечара ў суботу. На наступны дзень целы дзяўчат знайшлі ў 100 метрах ад берага на глыбіні прыкладна тры метры.

Па словах відавочцаў, распавядае Аляксандр Роўда, на возеры ў суботу адпачывала кампанія моладзі. Дзяўчаты ўзялі надзіманы матрац і паўшлі плаваць. Праз некаторы час кампанія, што засталася на беразе, заўважыла, што па возеры плавае адзін матрац, дзяўчат не было. Папярэдняя версія трагедыі – ненадзейны плавальны сродак.

– Хутчэй за ўсё дзяўчаты звалiліся або самі саскочылі з матраца ў ваду, вырашыўшы, што ў любы момант змогуць схапіцца за яго зноў. Па словах хлопцаў, што былі разам з імі, адна з дзяўчат плаваць не ўмела. Магчыма, адна з іх спрабавала выратаваць другую.

Аляксандр Роўда яшчэ раз нагадаў пра тое, што надзіманы матрац – гэта не плавальны сродак і спадзявацца на яго нельга.

– Калі прывезлі з сабой матрац на вадаём, аплавайце на ім уздоўж буйкоў.

## Дзе забаронена купацца ў рэгіёне?

**МАЛАДЗЕЧНА.** Пад забаронай застаецца гарадскі пляж на рацэ Уша. Дазволена купацца толькі на пяці ўзаконеных пляжах:

Удранка (Радашкавічы), каля санаторыя "Сасновы Бор", ля дома адпачынку "Алеся", фермерская гаспадарка"Цвецень", пасёлак Беразінскае.

**ВІЛЕЙКА.** У раёне зацверджаныя тры месцы масавага адпачынку на вадзе. Адно з іх – на Вілейскім вадасховішчы ў раёне выратавальнай станцыі, другое – на Віліі па вуліцы Савецкай у горадзе (пляж "Сонечны"). А трэцяе – на сажалцы ў вёсцы Асіпавічы.

**ВАЛОЖЫН.** Валожыншчына сёлета можа пахваліцца чысцінёй і прыдатнасцю сваіх пляжаў для адпачынку жыхароў раёна. У Валожынскім раёне для адпачынку і купання абсталяваныя тры месцы: "Жоўты бераг", што на рацэ Заходняя Бярэзіна (паблізу вёскі Буні), Валожынскае вадасховішча (вёска Гардынава), Вадаём на рацэ Валмяжка, што ў Івянцы.

**МЯДЗЕЛ.** На Мядзельшчыне налічваецца 11 месцаў для купання. 10 з іх – у курортнай зоне і адно – у Мядзеле (гарадскі пляж).

У раёне ёсць 20 месцаў адпачынку (пераважна гэта турысцкія стаянкі). Там таксама дазваляецца купацца.

**АСТРАВЕЦ.** У Астравецкім раёне абсталяванае толькі адно месца для адпачынку і купання – Янаўскае вадасховішча. І купацца на ім не забаронена.

**АШМЯНЫ.** На Ашмяншчыне таксама толькі адно дазволенае месца масавага адпачынку. Гэта зона адпачынку ў квартале Будаўнікоў. Там забароны на купанне няма.

**СМАРГОНЬ.** У Смаргоні дазволена купацца толькі ў зоне адпачынку, што па вуліцы Маладзёжнай.

**Падрыхтавалі Наталля ТУР, Алесь ВЫСОЦКІ.**

 




Фота Васіля ФЕДАСЕНКІ, "Рэйтарс".

Валанцёр працуе на будаўніцтве дома.

● ЭКАЛОГІЯ

# Будуюць экалагічны дом для медыкаў

**МЯДЗЕЛ. У цэнтры вёскі Занарач узводзяць двухкватэрны дом. Прызначаны ён для работнікаў Занарацкай амбулаторыі.**

Дом будуецца па экалагічных тэхналогіях. Яго плошча складзе каля 140 квадратных метраў.

Па завяршэнні будаўніцтва дзве прасторныя кватэры з усімі выгодамі паступяць у распараджэнне Мядзельскай цэнтральнай раённай бальніцы. Тут будуць жыць маладыя спецыялісты на час сваёй працы ў амбулаторыі.

Ажыццяўленне праекта пачалося ў маі гэтага года, а завяршыць яго плануецца да верасня наступнага.

### Хто фінансуе праект

Арганізуе і каардынуе праект Міжнароднае дабрачыннае грамадскае аб'яднанне "ЭкаДом". Будаўніцтва ідзе са сродкаў, якія даюцца праз арганізацыю "Дамы замест Чарнобыля" федэральным Міністэрствам па эканамічным супрацоўніцтве (Германія).

Добраўпарадкаванне тэрыторыі вакол дома, падключэнне яго да вонкавых сетак і камунікацый, унутранае аздабленне сцен ўзялі на сябе Мядзельскі райвыканкам і цэнтральная раённая бальніца. На іх лягуць і выдаткі па далейшым утрыманні будынка.

На думку арганізатараў праекта, узвядзенне дома будзе спрыяць замацаванню маладых кадраў, павышэнню ўзроўню медыцынскага абслугоўвання (амбулаторыя абслугоўвае больш за 2000 чалавек).

### З прыродных матэрыялаў

– Дом атрымаецца экалагічна чысты і вельмі цёплы, – абяцае выканаўчы дырэктар МДГА "ЭкаДом" **Юры Супрыновіч**.

Расказаў ён пра асаблівасці дома:

– Будуем яго з выкарыстаннем экалагічна чыстых прыродных матэрыялаў з гэтай мясцовасці. Асновай будынка з'яўляецца магутны драўляны каркас, усталяваны на жалезабетоннай пліце. Сцены каркаса запаўняюцца сумессю гліны, дранкі і вады, а уцеплім цеплаізаляцыйнымі плітамі з трыснягу.

Перакрыцце таксама ўцяпляецца трыснягом. Трысняговыя пліты вырабляюцца тут жа, на прадпрыемстве ў Занарачы. А сухастой трыснягу нарыхтоўваюць зімой на возеры Нарач.

### Дом узводзяць валанцёры

Ва ўзвядзенні дома ўдзельнічаюць валанцёры з Беларусі і Германіі. Ад 12 да 30 ліпеня па запрашэнні "ЭкаДома" працавала міжнародная валанцёрская група ў складзе 20 чалавек. Дваццаць чалавек запаўнялі сцены дома сумессю гліны і дранкі. Кіравалі групай з нямецкага боку цясляр **Гера Мюлер**, з беларускага – будучы спецыяліст па міжкультурных камунікацыях **Ганна Казлова**.

Сярод валанцёраў былі студэнты, рабочыя, пенсіянеры – усе, хто хацеў дапамагчы ў ажыццяўленні праекта.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".** Праект будаўніцтва дома – гэта працяг пачатага ў 1994 годзе доўгатэрміновага супрацоўніцтва Міжнароднага дабрачыннага грамадскага аб'яднання "ЭкаДом" са сваім нямецкім партнёрам – дабрачыннай арганізацыяй "Дамы замест Чарнобыля". Вынікам стала будаўніцтва 30 дамоў па вуліцы Дружная ў вёсцы Стахоўцы для чарнобыльскіх перасяленцаў, культурна-адукацыйнага цэнтра, энергаэфектыўнага будынка Занарацкай амбулаторыі, ветраэлектрычнай станцыі сумарнай магутнасцю 1,85 МВт, вытворчасці з трыснягу.

● НАШЫ ГРОШЫ

## Падаражэюць паслугі тэлефоннай сувязі

**Ад 1 жніўня ў Беларусі абанплата даражэе на 20%, міжгорад – на 12%.**

Гэта прадугледжана пастановай Міністэрства эканомікі №52 ад 16 ліпеня 2014 года, якая апублікаваная на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале, паведамляе БелТА.

Згодна з дакументам, абаненцкая плата для насельніцтва вырасце прыкладна на 20%.

У прыватнасці, карыстальнікі індывідуальных нумароў штомесяц павінны будуць плаціць 14 750 рублёў (цяпер – 12 250).

Таксама ад 1 жніўня міжгародныя званкі будуць каштаваць на 12,1% больш – 81,4 рубля за хвіліну.

Таксама пастановай павялічаныя кошты паслуг электрасувязі агульнага карыстання для юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў.

**Аддзел інфармацыі.**

ЛІЧБА НУМАРА

**190**

**тысяч беларусаў хварэюць на алкагалізм**

**18% – жанчыны**

Нацыянальны статыстычны камітэт Беларусі

| Курсы валют НБ РБ | 24.07 | 31.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 10 290,00 | **10 310,00** |
| Еўра | 13 850,00 | **13 820,00** |
| Злоты | 3 348,52 | **3 327,74** |
| Літ | 4 013,18 | **4 000,93** |
| Расійскі рубель | 296,00 | **288,50** |
| Грыўня | 884,02 | **845,78** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Еўра | 13813940 | **13790/13850** |
| Долар ЗША | 10270/10330 | **10280/10325** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 23.07 | 30.07 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | - | **139600** |
| **Сасіскі**, 1 кг | - | **55900** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | - | **26300** |
| **Ялавічына** (выразка), 1 кг | - | **110000** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 28900 | **28900** |
| **Селядзец**, 1 кг | 35800 | **35800** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 98700 | **98700** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 14000 | **9000** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| **Алей "Масловія"** | 14200 | **12000** |
| **Маянэз**, 200 г | 5500 | **5500** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 9000 | **11000** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 30000 | **30000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9350 | **11500** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 7850 | **6050** |
| **Капуста**, 1 кг | 3800 | **3800** |
| **Морква**, 1 кг | 8650 | **7250** |
| **Буракі**, 1 кг | 7250 | **7250** |
| **Лімоны**, 1 кг | 20850 | **20850** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 17900 | **17500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 19500 | **21200** |
| **Памідоры**, 1 кг | 11300 | **9700** |
| **Агуркі**, 1 кг | 10250 | **10250** |
| **Перац**, 1 кг | 14500 | **14500** |
| **Вінаград**, 1 кг | 33000 | **27000** |
| **Бананы**, 1 кг | 13500 | **11900** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 8900 | **10300** |
| **Грушы**, 1 кг (Дзюшэс) | 21500 | **19500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| **Масла**, 1 кг | 90000 | **90000** |
| **Тварог**, 1 кг | 50000 | **50000** |
| **Бульба** маладая, 1 кг | 4000 | **4000** |
| **Сала**, 1 кг | 100000 | **100000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 60000 | **60000** |
| **Яйкі**, 1 дзясятак | 15000 | **20000** |







 

Калі здарылася трагедыя ў Смаргоні, нікога з дарослых дома не было. Двое малых дзяцей засталіся адны.

Фота iz.s.progorod11.ru.

● КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

# Двухгадовы хлопчык выпаў з акна пятага паверха і загінуў

**СМАРГОНЬ. Трагедыя здарылася раніцай 24 ліпеня. Ад атрыманых пры падзенні траўмаў дзіця памерла ў бальніцы.**

Начальнік Смаргонскага раённага аддзела Следчага камітэта **Андрэй Рэзін** распавёў "Рэгіянальнай газеце":

– 22-гадовай маці хлопчыка ў гэты злапамятны чацвер тэрмінова трэба было пайсці да доктара. У жанчыны было двое сыноў. Аднаму – два гады, другому – тры з паловай. Браць іх з сабой было цяжка. Перад тым, як сысці з хаты, яна патэлефанавала мужу, які знаходзіўся на працы. Папярэдзіла, што ненадоўга сыдзе, сказала, што ўсё ў парадку, дзеці спяць. Пакінула іх адных.

Літаральна праз гадзіну яе мужу патэлефанавалі і сказалі, што малодшы сын вываліўся з акна. 23-гадовы бацька тэрмінова прыехаў дадому. Старэйшы сын знаходзіўся ў кватэры, малодшага нідзе не было. Усе вокны ў кватэры былі зачыненыя.

Што адбылося ў гэты дзень, дадумваць не будзем.

Па словах Андрэя Рэзіна, праверка павінна ўстанавіць прычыну трагедыі і абставіны таго, што адбылося.

Па факце здарэння праверку праводзіць Смаргонскі раённы аддзел Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь.

Андрэй Рэзін заклікае ўсіх бацькоў не пакідаць адных маленькіх дзяцей.

– Не пакідайце іх "нават на хвілiначку", потым будзе немагчыма нічога паправіць, – просіць начальнік Следчага камітэта.

**Наталля ТУР.**

● АКЦЫІ

# Выратавальнікі палівалі дзяцей вадой

**МАЛАДЗЕЧНА. Работнікі Маладзечанскага аддзела па надзвычайных сітуацыях наведалі дзіцячы аздараўленчы лагер "Лясны".**

Гэты сонечны, спякотны дзень лагернай змены назвалі "Днём бяспекі".

Выхаванцам лагера работнікі МНС распавялі, што рабіць пры пажары, паказалі, як працуе пажарны апавяшчальнік і як карыстацца вогнетушыцелем.

Старшыня Маладзечанскай раённай арганізацыі Таварыства выратавання людзей на водах нагадаў правілы паводзін на вадзе.

А каб замацаваць усе атрыманыя веды, дзецям падрыхтавалі адмысловыя загадкі.

Потым была дэманстрацыя баявога адзення ратавальнікаў. І некаторыя з дзяцей нават прымяралі камплекты проста на сцэне.

Аднак галоўным сюрпрызам стаў выезд на пляц лагера аварыйна-выратавальнага аўтамабіля.

Дзецям паказалі магутную пажарную помпу, апарат на сціснутым паветры, які дазваляе дыхаць і працаваць выратавальнікам у дыме. Таксама хлопцы і дзяўчаты ўбачылі ўстаноўку імпульснага пажаратушэння – сапраўдную вадзяную гармату, ручныя пажарныя ствалы і іншае.

Сваё выступленне выратавальнікі завяршылі велізарным фантанам вады з пажарнага ствала. У мокрай адзежы, з усмешкамі на тварах і захапленнем у вачах хлопцы доўга не адпускалі ратавальнікаў і крычалі "Яшчэ!". Вядома, халадняваты доўжджык яшчэ раз прайшоўся над галовамі шчаслівых дзяцей.

Дзеці падыходзілі і дзякавалі. І гэта лепшыя ўзнагароды ад самых удзячных гледачоў.

Вельмі парадавала тое, што практычна ўсе хлопчыкі і дзяўчынкі маюць добры багаж ведаў па правілах бяспекі. Ведаюць не толькі нумар "101", але і нумар адзінай дыспетчарскай службы "112". І, вядома, ведаюць пра тое, што трэба рабіць у надзвычайных сітуацыях.

Фота забяспечыла Ксенія ТАРАТУТА.

Супрацоўнікі МНС далі дзецям пагуляць са сваімі прафесійнымі атрыбутамі.

**Ксенія ТАРАТУТА,**
**інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі Маладзечанскага ГРАНС.**

● ПРАКУРАТУРА, СУД

# Зняла чары з пярсцёнка разам з ім і завушніцамі

**МАЛАДЗЕЧНА. Летась у кастрычніку дзве жанчыны пазнаёміліся ў цягніку Маладзечна-Полацк.**

Адна з іх сказала, што ў другой на залатым пярсцёнку чары, і прапанавала дапамогу ў тым, каб зняць іх.

Праз пэўны час жанчыны стэлефанаваліся і сустрэліся ў Маладзечне на плошчы Старое Места.

"Чараўніца" перадала жанчыне дзве пластыкавыя бутэлькі, а тая – 300 тысяч рублёў. Пасля варажбы высветлілася, што, каб зняць чары з пярсцёнка, трэба тры залатыя рэчы. І жанчыне, якая звярнулася па дапамогу, прапанавалася зняць пярсцёнак і дзве залатыя завушніцы. "Чараўніца" паабяцала вярнуць іх праз некалькі гадзін.

Аднак на наступную сустрэчу яна ўжо не прыйшла і тэлефон не здымала.

Праз тыдзень аб'явілася сама. Патэлефанавала і папрасіла прабачэння ды абавязвалася вярнуць усё золата. А сваё знікненне патлумачыла тым, што ў яе здарыўся інфаркт і яна ў бальніцы. Сказала, што пазней патэлефануе і ўсё перадасць. Праўда, наступнага званка ўжо не было.

Абвінавачаная сваю віну не прызнала. Яна казала, што лячылася ў Маскве, а свой тэлефон згубіла ў Паставах.

Аднак падчас судовага разбору яе віна была даказаная.

Суд Маладзечанскага раёна вынес прысуд, які ўступіў у законную сілу ў ліпені 2014 года. Жанчыне прызначылі пакаранне ў выглядзе 1 года пазбаўлення волі.

Згодна з артыкулам 1 Закона Рэспублікі Беларусь ад 17 чэрвеня 2014 года "Аб амністыі ў сувязі з 70-годдзем вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў", суд вызваліў яе ад пакарання з пагашэннем судзімасці, паколькі жанчыне больш за пяцьдзесят пяць гадоў.

**Іван НЕЎМЯРЖЫЦКІ,**
**старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

● КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Двое маладзёнаў з Маладзечна з 16 тон брагі гналі самагон

**МАЛАДЗЕЧНА.** Іх затрымалі падчас яго вырабу ў закінутым хутары ў вёсцы Капачы 24 ліпеня.

І затрымалі дзякуючы жыхарам, якія распавялі пра гэта міліцыі.

Аднаму з затрыманых 26 гадоў, другому – 22. Абодва беспрацоўныя.

Самагонны апарат праваахоўнікі дэмантавалі і здалі на металалом. Брагу знішчылі.

Пра здарэнне распавёў намеснік начальніка па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні Маладзечанскага РАУС **Уладзімір Васількоў**.

## Мужчына лёг пад цягнік

**СМАРГОНЬ.** Мужчына пераходзіў чыгуначныя пуці і раптам вырашыў звесці рахункі з жыццём.

Здарэнне адбылося ў аўторак а 14 гадзіне ў Смаргоні.

– 62-гадовы мужчына з псіхічнымі адхіленнямі пераходзіў чыгуначныя пуці. Раптам ён рэзка развярнуўся і пайшоў назад, да таго пуці, па якім ехаў пасажырскі цягнік Смаргонь–Маладзечна. Мужчына лёг, паклаў галаву на рэйкі. Ні экстраннае тармажэнне, ні папераджальныя сігналы, якія падаваў машыніст цягніка, не змаглі прадухіліць трагедыю. Мужчына загінуў на месцы, – распавёў "Рэгіянальнай газеце" начальнік Смаргонскага раённага аддзела Следчага камітэта **Андрэй Рэзін**.

Следчы камітэт праводзіць праверку.

## Электрычка Маладзечна-Мінск збіла пешахода

**МАЛАДЗЕЧНА.** Няшчасны выпадак здарыўся пад Мінскам раніцай 24 ліпеня, паведамляе tut.by.

На прыпыначным пункце "Мінскае мора" электрычка траўмавала пешахода. Смерць пацярпелага канстатавалі ў машыне "хуткай дапамогі".

Як паведаміў Мінскі транспартны пракурор **Мікалай Кротаў**, дэталі здарэння пакуль высвятляюцца. Вядома, што 20-гадовы малады чалавек купіў білет у касе прыпыначнага пункта "Мінскае мора". Ён збіраўся ехаць у бок Заслаўя.

Пераходзіў на другі бок пуці не па пешаходным насціле. У гэты час на прыпынак прыбываў электрацягнік эканомкласа Маладзечна – Мінск. Машыніст экстранна затармазіў, але з-за невялікай адлегласці паміж чалавекам і цягніком сутыкнення пазбегнуць не ўдалося. Электрацягнік адкінуў пешахода.

Адбылося гэта ў 7.17 раніцы. Вынікаў экспертызы пакуль няма, але па знешніх прыкметах можна казаць, што малады чалавек быў п'яны.

Пасажыра даставілі на станцыю Мінск-Пасажырскі, змясцілі ў машыну "хуткай дапамогі". Там ужо канстатавалі яго смерць. Па здарэнні праводзяць праверку органы папярэдняга следства.

**Аддзел інфармацыі.**

● ЗАХАПЛЕННІ

# Байкер: “Сыну няма двух гадоў, а матацыкл заводзіць умее”

**МАЛАДЗЕЧНА. 26 ліпеня байкерскі фестываль “Матапікнік” прайшоў у Смаргоні.**

На злёт байкераў з’ехалася каля 800 аматараў мотатэхнікі. Сярод іх быў і маладзечанец **Паша Петрусевіч**.

– Пра такія фестывалі адным словам і не раскажаш: эмоцыі, уражанні, усё такое, – дзеліцца ўзрушаны Паша. – Для мяне асаблівае задавальненне праехаць 200, 300, 400 кіламетраў, каб трапіць на падобны фестываль. Я выязджаю з горада, выбіраю крэйсерскую хуткасць і сам-насам з сабой і з дарогай еду-еду-еду.

**Даведка “РГ”.**
**Крэйсерская хуткасць** – хуткасць руху транспартнага сродку з найменшымі выдаткамі паліва на кіламетр шляху. Гэта хуткасць дазваляе прайсці максімальны шлях для фіксаванага аб’ёму паліва.

**– А як жа паліхачыць у горадзе, аб’язджаючы ўсе спадарожныя машыны і ігнаруючы сігналы супрацоўнікаў ДАІ?**

– Вы распісалі рамантычны вобраз байкера. Я ж просты хлопец. Нават байкерам сябе не лічу. Хутчэй, я матацыкліст. У горадзе толькі дурні могуць так паказваць сваю круцізну. Ну які толк не прыпыніцца па просьбе даішніка? У наступны раз усё роўна затрымаюць.

А хуткасць 200 кіламетраў у гадзіну – гэта паказчык не круцізны, а абыякавасці да навакольных людзей. Не шкадуеш сябе – пашкадуй тых, хто знаходзіцца побач.

**– Тады ў чым прынцыповая розніца паміж байкерамі і матацыклістамі?**

– Байкер, на мой погляд, – гэта лад жыцця. Актыўны ўдзел у фестывалях, дабрачынныя акцыі, папулярызацыя байкерскага руху. Гэтым трэба жыць 24 гадзіны ў суткі.

А матацыкліст – гэта чалавек, які мае матацыкл, ездзіць на ім на працу і імкнецца зрабіць яго трошачкі лепшым і адрозным ад заводскіх параметраў.

**– Распавядзі пра свайго “жалезнага каня”.**

– Мой, як вы кажаце, “жалезны конь” прыплыў да мяне з-за акіяна. Гэта сапраўдны амерыканскі Harley-Davidson. Ва ўсім свеце да гэтага матацыкла прадаецца звыш 150 тысяч найменняў рознага цюнінгу. Мы ж у сябе ў Беларусі такой раскошы пазбаўленыя. Таму і даводзіцца ўсё рабіць сваімі рукамі і на свой густ.

У маім матацыкле няма ніводнай лішняй дэталі або дэталі для ўпрыгожвання. Усё на сваіх месцах. Калі гэта прыгожая падкова – гэта і мацаванне для глушыльніка. Калі гэта гульнёвыя косткі – гэта і індыкатар паліва. Мой матацыкл не зроблены для таго, каб на ім штосьці ці кагосьці вазіць. Нават мадэль усталявана на ім крэсла называецца адпаведна: “Эгаіст”.

**– Ведаю, што многія даюць сваёй тэхніцы імёны. У твайго матацыкла такое імя ёсць?**

– Ёсць. Я яго заву Друшляк. Імя ён такое атрымаў за тое, што ўвесь свеціцца. Стоячы з левага боку матацыкла, можна цалкам бачыць, што знаходзіцца ад яго справа.

**– Адкуль у цябе захапленне мотатэхнікай?**

– Ад бацькі. Я памятаю, калі быў зусім маленькі, у майго бацькі быў матацыкл. І мне вельмі падабалася проста стаяць і назіраць за тым, як ён яго рамантуе.

Цяпер на месцы свайго бацькі я сам. Суседскія 10-12-гадовыя хлопчыкі зараз назіраюць за тым, як я рамантую свой матацыкл.

У мяне самога падрастае сыночак Мікола, якому яшчэ няма двух гадоў. Ён аднойчы сам завёў матацыкл. Хто з нас дваіх больш напужаўся, калі матацыкл завёўся, не ведаю. Але праз некаторы час Мікола зноў падышоў да матацыкла. Я спытаўся ў яго, ці хоча ён, каб я яго пакатаў. Сын пастаяў, задумаўся на хвіліну і кіўнуў галавой. Так што прадаўжальнік у мяне ёсць.

**– А жонка не супраць твайго захаплення?**

– Не, яна ўсё разумее. Можна сказаць, падзяляе маю палкасць. Нават сама за руль просіцца. Але я ёй свой Друшляк пакуль не давяраю, ён вельмі магутны для пачынаючага кіроўцы. Магчыма, потым зраблю ёй нешта жаночае.

**– Як ставішся да жанчын-байкерkаў?**

– Абсалютна нармальна. Я лічу, што ні пол, ні ўзрост не могуць быць прычынай, каб не станавіцца байкерам.

А яшчэ байкеры дабрэйшыя за аўтамабілістаў. Я ўпэўнены, што калі раптам на трасе заглухне твая машына, большасць кіроўцаў проста праедуць міма. Калі ж здараецца нешта з матацыклістам, абавязкова спыніцца кожны матацыкліст.

І на запраўку мы ездзім усе, не трэба кагосьці даганяць, дастаткова паказаць спецыяльным жэстам, што ў цябе заканчваецца бензін, усе байкеры ўслед за табой павернуць на запраўку.

**– Якія яшчэ спецыяльныя жэсты, акрамя указаць пальцам на пусты бак, існуюць у байкераў?**

– Ды такія, як і ў кіроўцаў аўтамабіля. Папляскаць сябе па плячах, значыць, што недзе непадалёк знаходзіцца “таварыш у пагонах”. І ўсе тыя жэсты рукой, пра якія напісана ў Правілах дарожнага руху.

**– Для вас байкерства – гэта хобі ці вар’яцтва?**

– І тое, і другое. Вар’яцтва ў тым, што я прачынаюся з думкай пра матацыкл і засынаю з той жа думкай. І падыходзячы да гаража, я трасуся ад прадчування таго, што зараз убачу, заваджу свой матацыкл.

Мне падабаецца выраз Генры Форда, які сказаў, што самая лепшая работа – гэта высокааплатнае хобі. Вось да гэта і імкнуся.



Фота Насцасі РОЎДЫ.

Свой матацыкл байкер Паша заве Друшляком за яго “празрыстасць”.



Фота забяспечана Паўлам ПЕТРУСЕВІЧАМ.

Пашын сын Мікола гаварыць не ўмее, але з мотатэхнікай ужо на “ты”.



**Наталля ТУР.**
E-mail:
natali.turenok@gmail.com

● НАШЫ ГРОШЫ

## Ад 1 жніўня вырастуць пенсіі

Беларускіх пенсіянераў чакае прыбаўка. Працоўныя пенсіі вырастуць у сярэднім на 7,3% – адпаведны ўказ падпісаў Прэзідэнт 24 ліпеня.

У ліпені сярэдняя працоўная пенсія дасягнула 2 мільёнаў 414 тысяч рублёў. Для параўнання, у снежні 2013 года яна была 2 мільёны 290 тысяч.

**Калі браць сярэднюю пенсію па краіне, то прыбаўка будзе каля 175 тысяч рублёў.**

Сёлета гэта другое павышэнне пенсій. Ад 1 лютага працоўныя пенсіі беларусаў павялічыліся ў сярэднім на 5,2%. Таксама ад 1 мая памер пенсій павялічыўся разам з ростам бюджэту пражытачнага мінімуму.

Бюджэт пражытачнага мінімуму павышаецца на 10,9% ад 1 жніўня. Цяпер ён складзе 1 343 420 рублёў.

Павышэнне зацверджана Пастановай Савета Міністраў №723 ад 24 ліпеня 2014 года, піша БелТА.

## Ад жніўня бюджэт пражытачнага мінімуму складзе:

– для працаздольнага насельніцтва – 1.505.230 рублёў;

– для пенсіянераў – 1.143.760 рублёў;

– для дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў – 1.097.000 рублёў;

– для дзяцей ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў – 1.647.110 рублёў;

– для дзяцей ва ўзросце ад 6 да 18 гадоў – 1.458.230 рублёў;

– для дзяцей-студэнтаў – 1.357.330 рублёў.

Гэтыя сацыяльныя нарматывы будуць дзейнічаць ад 1 жніўня да 31 кастрычніка 2014 года.

Павышэнне бюджэту пражытачнага мінімуму прывядзе да адпаведнага павелічэння памераў працоўных мінімальных і сацыяльных пенсій, надбавак і павышэнняў, устаноўленых да пенсій асобных катэгорый пенсіянераў. Узрастуць памеры некаторых відаў дзяржаўных дапамог сем’ям, якія выхоўваюць дзяцей.

**Аддзел інфармацыі.**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# Пена, хадулі і водныя забавы

## Мядзяльчан і гасцей сабрала свята возера

**МЯДЗЕЛ. Свята возера праходзіць у райцэнтры толькі некалькі год, але ўжо стала своеасаблівым брэндам горада.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Дзятва была ў захапленні ад пеннай забавы.

Ізноў у апошнюю суботу ліпеня на гарадскім пляжы было шматлюдна.

Багата прыехала народных майстроў. І вырабы разнастайныя прывезлі. Адзін з іх нарабіў буслоў і іншых птушачак. Пад любы запыт падладзіўся – і на беларускай, і на рускай мовах надпісы зрабіў.

Але, здаецца, больш за ўсё было пакупнікоў ля кубачкаў, талерачак і магнічкаў з выявамі лебедзяў, Нарачы і мясцовых славутасцяў.

Ды і народныя майстры пастараліся адпаведныя святу сувеніры зрабіць. Вось дырэктар Каловіцкага дома майстроў з Вілейшчыны **Тамара Бурко** рыбак з лазы панараблялa.

– Сёння ж свята возера. А якая вада без рыбы! – усміхаецца.

Упершыню на гэткім свяце быў бондар **Аляксандр Странкоўскі** з Маладзечна. Распытваю пра ўражанні.

– Па першых уражаннях – свята будзе працітаць. Тут жа возера, добрая атмасфера – а працоўнаму чалавеку заўсёды патрэбны адпачынак. І добрых артыстаў трэба запрашаць для рэкламы.

Адкрывалі свята не афіцыйныя асобы, а рыбак, вадзянік і русалкі. Прыгожа танцавалі і спявалі калектывы, якія адпачываюць у Нацыянальным дзіцячым цэнтры "Зубраня". Таксама падымаліся на сцэну самадзейныя калектывы з Мінскай і Віцебскай абласцей.

І пакуль адтуль нясліся любімыя ў народзе хіты, на іншай сцэне гучала зусім іншая музыка. Тут можна было пачуць і рок (на беларускай мове музыкі спявалі), і рэп.

Працавалі гульнёвыя пляцоўкі. Так, на адной удзельнікі маглі паспрабаваць свае сілы ў старадаўніх забавах – скажам, кінуць бервяно. Можна было пакатацца на конях і поні, зрабіць малюнак на тлары і сфатаграфавацца ў розных вобразах.

– Вось там табе трэба сфатаграфавацца, дзе Баба-Яга, – жартавалі са сваіх жонак мужчыны.

Багата было забаў для дзяцей. Але ўсё ж малеча пыталася, калі пачнуцца вядомыя па мінулых святах забавы. Гэта водная феерыя, калі над пляжам высока-высока ўзлятаюць струмені вады, і пенная забава. Пакачалася дзятва ў пене ўдосталь.

Яшчэ ў гэты дзень мядзяльчане і госці свята пабачылі артыстаў на хадулях, выступленне ўдзельнікаў тэлевізійнага праекта "Акадэмія талентаў" і вогненнае шоу.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ПАМЯЦЬ

# Воінам-сібіракам устанавілі памятны знак са 120-гадовага дуба

**МЯДЗЕЛ. Дэлегацыя з Іркуцка спецыяльна прыехала на Мядзельшчыну, каб ушанаваць памяць землякоў.**

19 ліпеня ў вёсцы Чарэмшыцы расіяне разам з беларусамі адкрылі памятны знак воінам-сібіракам, якія загінулі падчас Нарачанскай аперацыі 1916 года.

Стварылі знак разам іркуцяне і занарачанцы. Дапамагалі нямецкія валанцёры, якія працавалі непадалёку.

**Найбольш высілкаў у стварэнне знака прыклаў занарацкі майстар Фёдар Акішаў. Для гэтага і дуб падабраў, якому як мінімум 120 год.**

Устанавілі знак на месцы пахавання воінаў рускай імператарскай арміі. Размешчанае яно на мясцовых могілках.

Старшыня Занарацкага сельвыканкама **Уладзімір Зелянкевіч** расказаў, што на невялічкім кавалку зямлі пахаваныя каля 900 салдат:

– Магчыма, капалі вялікую яму, клалі радамі. Не ведаю, колькі радоў – мо, дзевяць атрымалася. Перакрывалі шынялямі. Зразумела, што імён ніякіх не захавалася.

Памаліўся за воінаў протаіерэй кіраўнік місіянерскага аддзела Іркуцкай епархіі **Вячаслаў Пушкароў.**

Пахаванне ў Чарэмшыцах для ўстаноўкі памятнага знака выбралі невыпадкова. Кіраўнік Бальшарэчанскага муніцыпальнага ўтварэння Іркуцкага раёна **Юры Вітэр** расказаў, што падчас Нарачанскай аперацыі 3-і сібірскі корпус панёс велізарныя страты. Каля 10 тысяч чалавек не вярнуліся з бою.

– У нашым фондзе "Полк, які вярнуўся" і клубе "Губерня" адразу з'явілася ідэя стварыць кнігу, прысвечаную Першай сусветнай вайне, – прыгадаў ён. – Разам паставілі мэту знайсці месца, дзе загінула шмат нашых землякоў. Знайшлі. Але прыехаць проста паглядзець – гэта нецікава. Вырашылі ўстанавіць памятны знак – з тым, каб у будучыні тут з'явіўся помнік. Сёння пабывалі на гэтай зямлі і яшчэ раз пераканаліся: тут просіцца ўстанавіць добры прыгожы помнік.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Ля памятнага знака – протаіерэй кіраўнік місіянерскага аддзела Іркуцкай епархіі Вячаслаў Пушкароў, гісторык прафесар Юры Пятрушын. На пярэднім плане – прадстаўнік клуба "Сібірскі стралок" Іван Бутакоў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

КУЛЬТУРА

# Да 100-годдзя пачатку Першай сусветнай

**ВІЛЕЙКА. Выставу "Пераклічка стагоддзяў: Першая сусветная вайна і свет сёння" адкрыюць а 16-й гадзіне 2 жніўня.**

Пройдзе яна ў зале выстаў імя Сілівановіча краязнаўчага музея.

Выстава прымеркавана да стагоддзя пачатку Першай сусветнай.

Яна стала вынікам гадавой працы 38 мастакоў з Беларусі, Расіі і Украіны. Гэта ўдзельнікі міжнароднага культурна-асветніцкага праекта з аднайменнай назвай.

Прапанавала выставу грамадская арганізацыя "Беларускі Зялёны Крыж".

"Рэгіянальная газета" пісала год таму пра гэты праект. А таксама пра тое, як мастакі знаёміліся з падзеямі Першай сусветнай вайны ў Вілейскім, Смаргонскім і Мядзельскім раёнах.

– Вынікам праекта сталі працы ўдзельнікаў і выстава, – кажа навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея **Надзея Аўдзей.** – На ёй адлюстраваны падзеі пачатку 20-га стагоддзя, а таксама погляд мастака на водгукі той трагедыі ў сённяшнім дні.

### Тым часам у Забароддзі

6 жніўня ў 17.30 пачнецца мерапрыемства памяці 100-годдзя пачатку Першай сусветнай вайны. Адбудуцца паніхіда на брацкіх лазарэтных могілках 29-й пяхотнай дывізіі, хросны ход і малебен.

Удзельнікі больш даведаюцца пра бой за Вілейку ў верасні 1915 года. Пройдзе прэзентацыі фільма "Святая Рыма" і кнігі **Уладзіміра Ліхадзедава** "Беларусь у гады Першай сусветнай вайны вачамі нямецкага салдата. Фатаграфіі і паштоўкі".

**Аддзел інфармацыі.**

ФЕСТЫВАЛІ

# Залессе запрашае зноў – "На дажынкі да Міхала"

**СМАРГОНЬ. 16 жніўня ў Залессі пройдзе ўжо традыцыйнае свята – фестываль-кірмаш "Залессе запрашае сяброў!"**

Гэтым летам мы згадаем, як праходзілі дажынкі ў маёнтку князя Міхала Агінскага ў ранейшыя часы.

Будзе смачна, цікава і весела: гасцей свята парадуюць музыкі не толькі з роднай Беларусі, але і з Польшчы ды Латвіі.

Чакаем таксама народных майстроў. Выбіраем лепшы падворак.

Фестываль-кірмаш "Залессе запрашае сяброў!" пачнецца ў 12 гадзін 16 жніўня каля палаца роду Агінскіх, дзе ўжо актыўна ідзе рэстаўрацыя.

Запрашаем далучацца музыкаў, народных майстроў і проста зацікаўленых гасцей!

Тэлефон для даведак: **8 029 313 55 57.**

**Аргкамітэт фестывалю.**

# Фестываль "Гліняны звон" прайшоў у Івянцы

**ВАЛОЖЫН. 50 майстроў Мінскай вобласці сабраліся 26 ліпеня на свяце-конкурсе ганчарства "Гліняны звон" ў Івянцы.**

Удзельнікі прадэманстравалі сваё майстэрства ў розных творчых спаборніцтвах. Паказалі і дамашнія калекцыі. З канцэртнай праграмай выступілі фальклорныя калектывы Валожынскага раёна.

Асноўная мэта такіх мерапрыемстваў – захаванне і развіццё народных рамесніцкіх традыцый, стымуляванне творчай актыўнасці майстроў, абмен досведам і арыгінальнымі аўтарскімі рашэннямі.

За апошні час на Міншчыне значна павялічылася колькасць керамістаў. Сфарміраваліся сучасныя самабытныя школы ганчарства ў Івянцы, Салігорску, Лагойску і Любані.

Кераміка карыстаецца попытам, вырабы з гліны з'яўляюцца ўпрыгожваннем інтэр'ераў, іх купляюць як сувеніры. Традыцыйны керамічны посуд выкарыстоўваецца ў рэстаранах і аграсядзібах.

Ганчарства – адзін з самых старажытных народных промыслаў Беларусі, пра які ў пачатку 90-х гадоў незаслужана забыліся.

Курс на мэтанакіраванае адраджэнне традыцыйнай керамікі ў Мінскай вобласці ўзяты ў 1996 годзе. Тады ў Любані па ініцыятыве Беларускага Саюза майстроў народнай творчасці адбылося першае абласное свята ганчароў.

У ім прынялі ўдзел больш за 20 чалавек. Затым "Гліняны звон" прымалі ў сябе Івянец, Лагойск, Радашкавічы. З 2006 года фестываль прапісаўся ў Івянцы і праводзіцца раз на два гады.

**Аддзел інфармацыі.**

# Эксперт: Беларусь дэманструе незразумелую скупасць пры фінансаванні адукацыі

**Чаму заказчыкі не могуць аспрэчыць якасць адукацыйных паслуг, выкладчыкі не хочуць рэформаў, а ўлады на іх эканомяць – пра "акно магчымасцяў" для беларускай вышэйшай школы распавядае член Грамадскага Балонскага камітэта прафесар філасофіі Уладзімір Дунаеў.**



Фота Plus.google.com

Сістэма адукацыі Беларусі патрабуе рэформаў і акадэмічных свабод.

**– Сярод шасці прыярытэтаў, якія першапачаткова вызначыў Форум палітычнай апазіцыі і грамадзянскай супольнасці, былі і стварэнне зоны свабоднага гандлю з краінамі ЕС, і рэформы пенсійнага, выбарчага заканадаўства, сістэмы ЖКГ. Чаму рэформа адукацыі стала самай актуальнай?**

– Выбар зроблены правільны. Ёсць матывацыя пачынаць рэформы. Гэта звязана з чарговай спробай Беларусі ўступіць у Балонскі працэс – рашэнне будзе прымацца ў пачатку 2015 года.

Да канца года Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу павінна разгледзець новую рэдакцыю Кодэкса аб адукацыі. Ёсць прапановы Міністэрства адукацыі. Тут ёсць магчымасць паспрабаваць максімальна мадэрнізаваць гэтыя прапановы з дапамогай еўрапейскіх экспертаў.

**– Наколькі рэальна паспець падрыхтаваць дэталізаваную канцэпцыю рэформаў сістэмы адукацыі да канца года?**

– Паспець рэальна, бо праца вядзецца не на пустым месцы. Шмат што ўжо было зроблена Грамадскім Балонскім камітэтам, каардынацыйна-кансультацыйным саветам арганізацый. У канцы мінулага года была прапанаваная наша рэдакцыя Кодэкса аб адукацыі, якая максімальна адказвае еўрапейскім трэндам развіцця адукацыі.

**– Наколькі дзяржава зацікаўленая сёння ў тым, каб правесці сапраўдныя, а не касметычныя рэформы?**

– Пераацэньваць ролю рэформы заканадаўства не варта. Але і без рэформы заканадаўчай базы разлічваць на рэальную мадэрнізацыю нельга.

Аб дзяржаве. Тут бы я ўвогуле адмовіўся ад выкарыстання гэтага слова ў адзіночным ліку. Дзяржава неаднастайная. І ў гэтай неаднастайнасці ёсць і пазітыўныя, і негатыўныя бакі. Парламенцкая дыскусія аб рэформах адукацыйнага заканадаўства ў пачатку снежня мінулага года паказала, што ў прадстаўнікоў многіх галін улады ёсць запыт на правільны, з нашага пункту гледжання, трэнд. Была агучаная неабходнасць дэцэнтралізацыі адукацыі. Ёсць разуменне, што створаны механізм адукацыйнай палітыкі контрпрадуктыўны. І вядзе да відавочных дыспрапорцый – напрыклад, да неэфектыўнасці сістэмы фінансавання адукацыі.

**– Чаго менавіта Форум палітычнай апазіцыі і грамадзянскай супольнасці чакае ад праекта "Рэфорум"?**

– Тут важная інтэрнацыяналізацыя экспертызы, апора на еўрапейскі досвед. Асноўная наша задача – не спарадзіць яшчэ адзін праект рэформаў, а дамагчыся рэальных зменаў.

**– Сістэме адукацыі неабходныя заканадаўчыя змены. Аднак ці вырашыць гэта праблемы беларускай адукацыі?**

– Нават у познесавецкую эпоху заканадаўчая база сістэмы адукацыі была больш ліберальнай. Гэту сістэму Беларусь атрымала ў спадчыну ад СССР. І як яна ёй скарысталася?

Яшчэ раз паўтаруся – без заканадаўчых змен рэформы неажыццяўляльныя. Нават калі з'яўляецца група рэфарматараў, гатовых ажыццявіць перамены, ім патрэбна заканадаўчая база. Пачынаць трэба з гэтага.

**– Пакуль настаўнікі і ўніверсітэцкія выкладчыкі атрымліваюць капейкі, не будзе прэстыжу прафесіі, прытоку таленавітых спецыялістаў. Не будзе добрых настаўнікаў у школах – не будзе падрыхтаваных студэнтаў. Не будзе высокага ўзроўню выкладчыкаў у ВНУ – не будзе спецыялістаў. А ў ВНУ, нягледзячы на ўсе прапісаныя ў законе акадэмічныя свабоды, будуць паступаць тыя ж троечнікі. І таленавітых выкладчыкаў з іх не выйдзе. Кола замкнулася.**

– Беларусь не вырашае праблем, якіх ніхто ніколі не вырашаў. І той жа Балонскі працэс у вышэйшай адукацыі – гэта, у першую чаргу, калектыўны пошук адказаў на такія пытанні. Напрыклад, на праблему якасці адукацыі ва ўмовах яго масавасці.

Нашы чаканні ад вышэйшай адукацыі да гэтага часу звязаныя з індустрыяльнай эпохай. І мы забываем, што жывём у эпоху постіндустрыяльную. Што гэта значыць?

Тое, што ў сярэдзіне 20-га стагоддзя вышэйшую адукацыю атрымлівалі 10% моладзі. А сёння – 85%. Зразумела, што гэта зусім розныя магчымасці. І тое, што калі ў нас так павялічылася колькасць студэнтаў, то і колькасць выкладчыкаў павінна была ўзрасці. А дзе сістэма іх селекцыі? Выкладчыкаў трэба адкуль браць. І гэта не толькі фінансавая праблема – колькасць таленавітых людзей таксама абмежаваная. У 60-я гады мінулага стагоддзя ў Беларусі было 60 тысяч студэнтаў, а цяпер – 430 тысяч. Рост велізарны. І чакаць, што паўмільёна можна навучыць гэтак жа, як 60 тысяч, не даводзіцца.

Трэба разумець – якіх мэтаў мы можам дасягнуць, а якіх – не.

Без сур'ёзных інвестыцый тут сапраўды мала што можна зрабіць. Аднак у тым, што тычыцца вышэйшай адукацыі, Беларусь дэманструе незразумелую скупасць. Кошт аднаго студэнцкага месца ў Беларусі – больш за 2 тыс. даляраў у год. У сярэднім у развітых краінах – каля 14 тыс. даляраў.

У развітых краінах на навучанне студэнта трацiцца 45% долі ВУП на душу насельніцтва, а ў нас толькі 15%. А наш ВУП і ВУП развітых краін таксама нельга супаставіць.

Плюс мы неэфектыўна выкарыстоўваем нават тыя сродкі, якія ёсць. На ўсё гэта напластоўваецца непразрыстасць – скажам, тыя, хто плаціць за навучанне, не ведаюць, на што ідуць іх грошы.

Дададзім сюды яшчэ сістэму акадэмічных каштоўнасцяў. Акадэмічныя свабоды – гэта інструмент, які павышае эфектыўнасць вышэйшай адукацыі і даследаванняў.

Так што пакуль мы навучыліся толькі эфектыўна ўхіляцца ад міжнародных методык ацэнкі якасці. Ні ў адной такой праграме Беларусь не ўдзельнічае.

**– У рэформе сістэмы адукацыі ёсць яшчэ настаўнікі, выкладчыкі ВНУ, прафесура. У гэтым асяроддзі ёсць попыт на рэформы?**

– Рэформа накіраваная не на іх, а на студэнтаў, іх бацькоў, на працадаўцаў. Але калі мы гаворым пра рэформы, мы кажам, у першую чаргу, аб змене маштабаў грамадскага ўдзелу.

Ці хочуць рэформаў выкладчыкі? Гэта складанае пытанне, бо нашы выкладчыкі бяспраўныя і ў іх няма ніякіх інструментаў, каб выказваць сваё меркаванне. Саветы ў нашых установах адукацыі бяспраўныя. У выкладчыка няма гарантый таго, што, калі ён будзе чагосьці хацець, кантракт з ім не скасуюць датэрмінова. Так што ўсё вырашае воля начальства.

Гэта ёсць разбурэнне акадэмічнай культуры. Сучасны беларускі трэнд, які абсалютна процілеглы сусветнаму. І казаць пра тое, што мы адпавядаем Балонскаму працэсу, рана. Таму нам так неабходныя рэформы.

**Мікалай АНІШЧУК, "Заўтра тваёй краіны".**



Фота "Заўтра тваёй краіны"

Уладзімір Дунаеў.

**Даведка "РГ".** "Рэфорум" – праект у падтрымку "Еўрапейскага дыялога аб мадэрнізацыі з беларускім грамадствам" (ЕДМ). Яго мэтай з'яўляецца павышэнне канкурэнтаздольнасці Беларусі шляхам распрацоўкі беларускімі і міжнароднымі экспертамі прапаноў рэформ для Беларусі і спосабаў іх ажыццяўлення. Напрамкі рэфармавання будуць вызначацца шляхам камунікацыі з рознымі групамі грамадства: уладай, бізнесам, грамадзянскай супольнасцю і палітычнай апазіцыяй. Для гэтага двухгадовы праект будзе разбіты на чатыры перыяды. І ў рамках кожнага паўгадавога перыяду прадстаўнікі мэтавых аўдыторый змогуць зрабіць "сімвалічны" заказ экспертам.

# Спякотныя дні на Нарачы:

## недахоп жылля і вэнджаны вугор за паўмільёна

**МЯДЗЕЛ. "Каб такое лета, як у ліпені, ды тры месяцы было. Во б мы зажылі", – уздыхаюць жыхары курортнага пасёлка Нарач (Купа).**

Чым жыве галоўны курорт Беларусі, высвятляў у пятніцу, 25 ліпеня, карэспандэнт "РГ".

### Дзе спыніцца

Перш-наперш адпачывальніку трэба вырашыць пытанне з жыллём. Па аб'явах у інтэрнэце аднапакаёвую кватэру прапануюць пераважна па 20 долараў за суткі. На двухпакаёўку разбежка цэн ад 25 да 40, але ў асноўным – 30-35 долараў.

І калі не паклапаціцца пра жыллё загадзя, могуць узнікнуць праблемы.

У цэнтры пасёлка ёсць дошка з аб'явамі. У мінулыя гады нават калі проста ля яе затрымаешся, падыходзіла якая бабуля і пыталася, ці трэба жыллё. Цяпер не. Вось сям'я вывучае аб'явы з прапановамі жылля. Кажуць, па ўказаных нумарах то не адказваюць, то яны занятыя. І вагаліся, што рабіць далей: ці то чакаць, мо, хто з гаспадароў адкажа, ці то ехаць шукаць што ў Мядзеле.

А праз пару гадзін ля гэтай дошкі бачу некалькі кампаній. Навыперадкі набіраюць то адзін, то другі нумар. Для кампаніі з пяці чалавек жылля па аб'явах у курортным пасёлку не знайшлося. Раздумвалі, ці пагаджацца на дом у трох кіламетрах ад Нарачы за 400 тысяч у суткі ці спрабаваць ісці ў гасцініцу.

### Браніраваць месцы мусілі ў сакавіку

Наіўныя людзі.

– У нас аншлаг, паўсюдна ўсё запоўнена, – расчароўвае начальнік аддзела турызму Нацыянальнага парку "Нарачанскі" **Людміла Краўчонак**.

А тут ёсць гасцінічны комплекс "Нарач" і мінігасцініца на кемпінгу, 10 гасцявых домікаў.

**– На нашых аб'ектах адпачываюць тыя, хто вызначыўся яшчэ ў сакавіку-красавіку, – працягвае яна. – Шмат тэлефануе тых, хто позна спахапіўся з адпачынкам ці на выхадныя хоча прыехаць. Але месцаў няма. Усё, што забраніравана, заселена. І ў санаторыях такая самая карціна. Розніцца могуць толькі на тое, што нехта раптам адмовіўся ад броні.**

Калі раптам вам пашчасціць і нехта адмовіцца ад броні, то суткі са сняданкам ў гасцінічным комплексе "Нарач" абыдуцца ад 250 тысяч.

Як заўважыла Людміла Краўчонак, колькасць турыстаў сёлета вырасла. Асаблівы прырост – у маі-чэрвені. І турыстычныя стаянкі сёлета запаўняюцца нашмат лепш.

### За беларускім адзеннем

Курортны пасёлак – проста бальзам на душу аўтара лозунга "Купляйце беларускае". На працягу пяці метраў аж тры рэкламы крам з беларускімі таварамі.

І ведаеце, якіх крам найболей у цэнтры пасёлка? Нават не прадуктовых – а з адзеннем. У разліку на расіян на шыльдах падкрэсліваюць "Тавары беларускіх і польскіх вытворцаў". Адзенне нават прадаюць ля пляжа – на імправізаваным кірмашы на танцпляцоўцы.

### Прыехалі ў цішыню

Расіян на Нарачы хапае. І не толькі з блізкіх да Беларусі рэгіёнаў. **Наталля** і **Сяргей** прыехалі за 2100 кіламетраў з Новарасійска. Гэта ж на ўзбярэжжы Чорнага мора!

– Так, многія здзіўляюцца, чаму мы на Нарач прыехалі, – дзеліцца Сяргей. – А мы проста хацелі ў цішыню ад гарадскога тлуму, падыхаць паветрам. І Беларусь паглядзець.

Кажа, што нармальны адпачынак: людзі добразычлівыя, чысты пасёлак. Толькі чакаў лепшага сэрвісу ў санаторыі.

**– Чым жа расіян прыцягвае Нарач?**

– Мяркую, цішынёй. І што тут экалагічна чыста, няма заводаў.

### Што з забавамі

У цэнтры пасёлка – звыклыя дзіцячыя забавы. Надзіманыя горкі, батут, 5D-кіно, машынкі... Непадалёку – цір.

У многіх здраўніцах ёсць басейны. У некаторых – нават з элементамі аквапарку.

Так што з дзіцем можна і туды завітаць.

Што можна ўзяць на пляжах напракат? Лодка на гадзіну каштуе 30 тысяч рублёў, 2-месны катамаран – 30 тысяч, 4-месны – ад 40 да 60 тысяч (на розных пляжах). А калі шмат грошай, то і яхту можна замовіць: 50 долараў за гадзіну. На адным з пляжаў і валейбольныя мячы дадуць, і шэзлонгі. Апошнія – 7 тысяч за гадзіну.

Згодна з дзяржаўнай праграмай развіцця курортнай зоны Нарачанскага рэгіёна, у к. п. Нарач інвестары павінны былі ўзвесці некалькі цікавых аб'ектаў. Праграма завяршаецца ў 2015 годзе.

Аднак некаторыя ідэі проста пахаваныя – як будаўніцтва аквапарку, дзе за прыгожым плакатам з выявай будучага дома адпачынку ўбачыш толькі пачатак будаўніцтва.

### Дзе паесці?

Чатыры гады таму давялося супраацаваць па Нарачы карэспандэнта аднаго з беларускіх выданняў. Захацелася яму перакусіць. То ў адным з кафэ ў сувязі са спякотай гадзіну не працавала кухня, у іншым быў сандзень, у рэстаране – дорага. Давялося яму падмацоўваць сілы марожаным.

За апошнія гады месцаў, дзе можна перакусіць, пабольшала.

Поўдзень. У кафэ ў цэнтры персанал сумуе – людзей яшчэ практычна няма. У піцэрыі, што сёлета адкрылася, таксама месцаў хапае. За сталікамі размясцілася пару кампаній. Піца тут ад 39 да 78 тысяч рублёў.

Ды і амаль на ўсіх пляжах ёсць кафэ. Вывучым цэны аднаго з іх. Марожанае – 10 тысяч рублёў, піва разліўное і ў бутэльках – ад 20 тысяч за паўлітра, шашлык са свініны – 55 тысяч за 100 грамаў, хот-дог – 25 тысяч. Кампанія моладзі ці то з цікавасці, ці то з жадання пажартаваць з маладой прадавачкі настойліва цікавіцца цэнамі на дарагі каньяк. Калі ласка – больш за пяць з паловай мільёнаў рублёў за бутэльку.

### Адпачываць на Нарачы, каб купацца ў Белым

Мінчанка **Алена** адпачывае ў санаторыі "Нарачанскі бераг". Каб трапіць сюды ў ліпені, заказвала нумар яшчэ ў сакавіку. Суткі абыходзяцца ў 350 тысяч рублёў з чалавека. І гэта з прафсаюзнай скідкай. Калі без яе, то суткі пацягнуць амаль на 470 тысяч.

Алене адпачынак на Нарачы зволышага падабаецца. Расказвае, што каля паловы адпачывальнікаў у "Нарачанскім беразе" – расіяне:

– Яны ў захапленні ад прыроды, паветра. Прадукты нашы ім падабаюцца: малочныя, мясныя.



Маладзечанкі Ева (злева) і Наталля лічаць, што калі яны не пабывалі на Нарачы, то лета як і не было.

Фота Насассі РОЎДЫ.



Спецыялісты настойліва раяць заходзіць у ваду толькі з пантонаў.

Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Адзначае такую асаблівасць.

– Дарагія цэны ў кафэ на пляжы. Вада, піва – дзве цаны, гэта дакладна. І вэнджаны вугор стаў дарагі – а раней мы сабе яго дазвалялі.

Так, аднаго з сімвалаў адпачынку на Нарачы, вугра, потым убачыў у краме па 499 тысяч рублёў за кілаграм. Цана – па ўсіх правілах маркетынгу!

Аднак галоўнае, чаго б хацелася Алене, каб у возеры было бяспечна купацца:

– Дзеці прыязджалі на выхадныя, пакупаліся. Так высыпала, што цяпер на бальнічным.

**– Яны з пантонаў купаліся?**

– Не. Пахадзілі па мелкаводдзі ўздоўж берага. Але мы болей не рызыкуем купацца ў Нарачы. Зараз на Белае возера ездзім. У нас у санаторыі, хто купацца тут, хто не.

### Цэркарыёз і як яго пазбегнуць

Вось і закранулі балючую, а дакладней смылючую тэму для адпачывальнікаў на Нарачы – цэркарыёз, ці так званы "сверб купальшчыка". Яго пасля купання у асобных людзей выклікаюць лічынкі птушыных гельмінтаў – цэркарыяў. У месцах іх пранікнення скура становіцца чырвонай, з'яўляецца пачуццё смылення і свербу, неўзабаве з'яўляюцца высыпка і пухіры.

На 21 ліпеня са скаргамі на цэркарыёз да медыкаў звярнуліся пяць чалавек, з іх адно дзіця. Летась за гэткі час было 15 выпадкаў, распавяла загадчыца аддзела эпідэміялогіі Мядзельскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Святлана Несцярэнка**.

Вядома ж, гэта статыстыка не адлюстроўвае поўную карціну. Бо хто не лічыць вартым звяртацца з гэтае нагоды, хто сам змагаецца са свербам мазямі ці содавымі прымочкамі.

А каб паменшыць верагоднасць цэркарыёзу, то вось парады ад спецыялістаў:

Купайцеся на абсталяваных пляжах, пазбягайце берагоў, зарослых воднымі раслінамі. Паколькі найбольш лічынак цэркарыяў збіраецца да глыбіні 70 сантыметраў, у ваду лепш заходзіць з пантона ці мосціка. Перад купаннем можна змазаць скуру рэпелентам на аснове ДЭТА. Пасля абавязкова трэба абмыцца пад душам. Калі яго няма, то насуха абцерціся ручніком.

### У ваду – з пантона

Пасля расказу Алены купацца неяк расхацелася. Але ж праверыць на сабе, ці бяспечна акунацца ў Нарачы, трэба было.

Прайшоўся па некалькіх пляжах у курортным пасёлку. На кожным людзей хапае – загараюць, купаюцца. Абсалютная большасць дысцыплінавана акунаецца з пантонаў, толькі лічаныя лезуць у ваду ля берага. Асабліва прыцягваюць іх рамантычнага выгляду камяні – некалькі пар па чарзе наладжваюць тут фотасесіі.

На пляжы "Урлікі" пытаю ў людзей:

– Купаецеся – не баіцеся, што могуць балячкі высыпаць?

– Ну як жа гэта: прыехалі на возера і не пакупацца.

Заходжу ў ваду – вядома, з пантона. Пасля купання – пад душ. Усё, як раяць спецыялісты.

... Купанне ў Нарачы закончылася добра – балячкі не з'явіліся.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




Фота Наталлі ТУР.

Момант гульні. Маладзечанцы хоць і стваралі вострыя моманты, але прайгралі з разгромным лікам.

ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

# "Маладзечна-2013" прайграла "Лівадзіі" 2:5

**МАЛАДЗЕЧНА. Чарговым паражэннем для маладзечанцаў скончыўся матч 14 тура другой лігі па футболе супраць дзяржынскай "Лівадзіі".**

Адкрыць лік сустрэчы гульцы "Лівадзіі" змаглі ўжо на другой хвіліне матча. І цягам першага тайма паўтарылі свой поспех двойчы. На перапынак маладзечанцы сыходзілі, бачачы лік на табло 0:3.

Пасля перапынку сапернікі, відаць, вырашылі, што вынік гульні ўжо вядомы, і трохі расслабіліся. Маладзечанцы ж такога паслаблення дзяржынцам не даравалі. У самым пачатку другога тайма **Андрэй Шаблінскі** б'е пенальці і трапляе ў вароты саперніка. Лік становіцца 3:1. Літаральна праз некалькі хвілін **Андрэй Лявончык,** скарыстаўшыся тым, што сапернікі замарудзіліся, уганяе другі мяч у вароты "Лівадзіі".

І як толькі надзея на іншы зыход матча засвяцілася ў вачах маладзечанскіх футбалістаў, дзяржынцы сабралі волю ў кулак і давялі разрыў у ліку зноў да двух мячоў.

За чацверты гол у вароты маладзечанцаў гулец "Лівадзіі" атрымаў жоўтую картку. Здзекуючыся і з абароны, і з варатара маладзечанцаў, якіх і побач з варотамі не было, гулец Дзяржынска павольна і прыгожа закаціў мяч у пустыя вароты. Ад радасці сарваў з сябе майку, за што і атрымаў ад суддзі "гарчычнік".

Нядоўга чакалі заўзятары "Лівадзіі" і пятага мяча. Маладзечанцам засталося толькі развесці рукамі.

Між тым, гэтае паражэнне самае буйное ў маладзечанцаў у гэтым сезоне. Толькі мінскім "Крумкачам" маладзечанцы прайгралі з лікам у пяць галоў, але тады змаглі і адквітаць чатыры мячы.

Галоўны трэнер ФК "Маладзечна-2013" **Дзмітры Ганчароў** тлумачыць гэта наступным чынам:

– Сыгралі блага. Пяць мячоў прапускаць нельга, няправільна. Я вельмі незадаволены. За ўсю гульню было хвілін 20 агулам, за якія не сорамна. Што тут яшчэ дадаць? Лік на табло кажа сам за сябе.

**– У камандзе з'явіліся два новыя гульцы. Імі задаволеныя?**

– У камандзе два навічкі. Гэта **Арцём Ермакоў**, які гуляў за каманду Вілейкі, і маладзечанец **Максім Чабрыцкі.** Прыемна бачыць, што яны выкладваюцца, чапляюцца за мяч у гульні. Але пакуль рана гаварыць пра тое, што яны значаць для каманды. Трэба пачакаць 2-3 гульні.

Што тычыцца наступнай гульні, якую футбалісты ФК "Маладзечна-2013" сыграюць супраць ФК "Клецк", Дзмітры Ганчароў загадваць не стаў.

– Мы рыхтуемся да кожнай гульні, штосьці атрымоўваецца, штосьці – не. Пажывём-пабачым.

**Наталля ТУР.**

РЫБНАЯ ЛОЎЛЯ

## Антон Каласоўскі не саступае звання лепшага рыбака

**МЯДЗЕЛ. У райцэнтры 26 ліпеня прайшлі спаборніцтвы па рыбнай лоўлі. Адбываліся яны ў межах свята возера.**

Прынялі ўдзел у спаборніцтвах сем чалавек – летась, напрыклад, было 17.

Рыбачылі на возеры Мястра яны шэсць гадзін.

Сюрпрызаў не адбылося – зноў пераможцам стаў жыхар Мядзела **Антон Каласоўскі**. У гэтых спаборніцтвах ён перамагае трэці год запар, а да гэтага таксама быў у ліку лепшых.

– Як так атрымліваецца, што сапернікі не могуць вас дагнаць? – пытаюся.

– Неяк яны несур'ёзна адносяцца. Гэта ж трэба старацца, рыхтавацца. А не тое, што прыехаў і знянацку налавіў.

Злавіў Антон Каласоўскі каля шасці кілаграмаў рыбы. Выцягнуў ён і найбольшую рыбіну – ляшча вагой у кіло васемсот.

Узнагародзілі лепшага рыбака на адкрыцці свята возера. Атрымаў пераможца прыз – выратавальную камізэльку. І пажадаў ён са сцэны мядзяльчанам, каб любілі і беераглі нашу прыроду: "Быў я і за мяжой, але такой не бачыў".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Антон Каласоўскі зноў перамог у спаборніцтвах па рыбнай лоўлі.

НАВІНЫ

### "Смаргонь" выбыла з Кубка Беларусі

**СМАРГОНЬ.** 26 ліпеня дома футбольны клуб "Смаргонь" гуляў у 1/16 фіналу Кубка Беларусі па футболе. Смаргонцы прымалі магілёўскі "Днепр". Прайгралі 0:2 і выбылі са спаборніцтваў.

Першы гол госці забілі напрыканцы першага тайма, а напачатку другога ў вароты "Смаргоні" заляцеў аўтагол.

Галоўны трэнер ФК "Днепр" **Юры Лукашоў** пагадзіўся, што яго каманда перамагла за кошт індывідуальнага майстэрства.

Галоўны трэнер "Смаргоні" **Павел Бацюта** па заканчэнні матча адзначыў (паводле fc-smorgon.by):

– Гуляючы з камандай вышэйшай лігі, у першым тайме, я лічу, што мы валодалі ініцыятывай, хлопцы выконвалі ўстаноўку.

Адзінае чаго не было, гэта забітага гола. У канцоўцы першага тайма прапусцілі неабавязковы гол, у пачатку другога здарыўся аўтагол. Два галы на працягу пяці гульнявых хвілін. Пасля гэтага перастроіліся і сталі гуляць у два нападаючыя, але забіць не змаглі.

### Усе каманды з рэгіёна прайгралі

**МАЛАДЗЕЧНА, ВАЛОЖЫН, ВІЛЕЙКА.** У дванаццатым туры чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе "Маладзечна-ДЮСШ-4" 26 ліпеня дома сустракалася з "Жодзіна-2007". Маладзечанцы прайгралі 0:1.

Прайграла і "Забудова-2007" – праўда, у гасцях. Каманда "Крупкі-ДРБУ-164" была мацнейшая за футбалістаў з Чысці 5:4.

Традыцыйна прайграў "Валожын-2010". Каманда дома саступіла аднаму з лідараў – ФК "Барысаў" з лікам 1:4.

У нядзелю "Вілія" ездзіла ў Смалявічы. Матч быў прынцыповы: гулялі з суседам па турнірнай табліцы, камандай "Смі-аўтатранс". Вынік для віляйчан несуцяшальны: пройгрыш з лікам 1:5.

Каманда "Маладзечна-ДЮСШ-4" па-ранейшаму ідзе на першым месцы ў групе "А". Аднак пройгрыш дазволіў падабрацца да яе сапернікам: барысаўчане адстаюць толькі на адно ачко.

"Забудова-2007" ідзе чацвертай, "Вілія" – шостай. А валожынцы замыкаюць турнірную табліцу.

### У чэмпіянаце – толькі пяць камандаў

**ВІЛЕЙКА.** Гульні чэмпіянату Вілейскага раёна 19 ліпеня па футболе выдаліся багатыя на галы. У двух гульнях футбалісты забілі 18 галоў. "Вязынь" прымала дома "Мехатроніку" і прайграла 3:5. "Чурлёны" аказаліся мацнейшымі за "Шылавічы" 6:4.

А 26 ліпеня "Чурлёны" саступілі "Першаму Беларускаму" з лікам 0:3, а "Шылавічы" разгромна прайгралі камандзе "Мехатроніка" 0:6.

Лідзіруюць у чэмпіянаце "Першы Беларускі" і "Мехатроніка". Пасля трох гульняў у іх па дзевяць ачкоў, паведаміў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан**.

У аўторак стала канчаткова вядома, што "Буддэталі" не будуць прымаць удзел у чэмпіянаце. Такім чынам, тытул чэмпіёна аспрэчаць пяць камандаў.

### Перамог змешаны дуэт

**МЯДЗЕЛ.** У райцэнтры 26 ліпеня адбыўся турнір па пляжным валейболе. Праходзілі гульні на двух пляцоўках на гарадскім пляжы.

Удзельнічалі ў турніры 10 камандаў. Гулялі практычна адны мужчыны, аднак перамог змешаны дуэт. Першае месца заваявалі **Андрэй Русак** і **Лізавета Карабейнік**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Турнір па пляжным валейболе ў Мядзеле сабраў 10 камандаў.

# Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Выканаўцы з Беларусі, Расіі і Украіны з'едуцца ў Шаблі

Трэба ехаць! ***Віталь.***

### Хакейная каманда "Дынама-Маладзечна" стварае свой фан-клуб

Не па тэлефоне становяцца ўдзельнікамі фан-клуба ...Прыйшоў, убачыў, спадабалася – стаў актыўным заўзятарам. Неяк так. Найлепшага. ***Арцём.***

### Ад 1 жніўня вырастуць пенсіі

Ну не 1 палка кілбасы, а кілаграм. Гэта 3-4 палкі. ***Не.***

### Летась у Беларусі выявілі 22 тысячы новых алкаголікаў, найбольш на Гродзеншчыне

Гэта амаль 2 працэнты ад агульнай колькасці насельніцтва, уключаючы дзяцей. Сумная статыстыка. Ёсць над чым задумацца... І гэта толькі афіцыйныя дадзеныя. ***Ева.***

### У Смаргоні сабака зацягнуў хлопчыка пад машыну

Што ж там за сабака такі здаровы? ***Людасік.***

### У Беларусі адмовіліся ад будаўніцтва асфальтавых дарог

Ну, натуральна – нарабілі цэментных заводаў, а цэмент ніхто не купляе, дык хоць у зямлю закапаем з карысцю) ***Шурка.***

### На Валожыншчыне 18-гадовы кіроўца збіў 5-гадовае дзіця

Калгаснікі, калі вы навучыцеся пісаць, што кіроўца збіў чалавека, а не аўтамабіль – ён што, трансформер? ***Влад Хуліган.***

Беднае дзіця, бедны кіроўца! Я ўяўляю, што ён адчувае. Усіх шкада, а дзядуля, там, нябось, наогул ледзь з глузду не з'ехаў! ***Ірына Калядчык.***



## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 2 | | | | 1 | | |
| | | | | | 7 | | 9 | 4 |
| | | | 6 | 1 | 9 | | 7 | |
| 9 | 4 | | | | | | | |
| 6 | | 7 | | | | 4 | | 8 |
| | | | | | | | 3 | 7 |
| | 6 | | 3 | 4 | 2 | | | |
| 4 | 2 | | 5 | | | | | |
| | | 3 | | | | 8 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9сустракалася толькі адзін раз.



## ● МОМАНТЫ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Настассі РОЎДЫ.

**Не толькі каты ад спёкі хаваюцца ў цяньку пад машынамі. Людзі ні ў чым не саступаюць.**




Фота Наталі ТУР.

**Удзельнік абласнога конкурсу МНС на лепшую дзяжурную змену адпачывае ў цяньку пасля чарговага спаборніцтва. 30 ліпеня. Маладзечна.**

## ● РЭПЕРТУАРЫ

### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыйныя прыгоды "**Кароль сафары**" 3D (Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка, 2013)
2, 3 жніўня – у 14:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Фантастычны трылер "**Перавага**" 2D (ЗША, 2014)
4 жніўня – у 18:30
Цана білета – 40 000 рублёў

Фантастычны трылер, баявік "**Планета малпаў: Рэвалюцыя**" 3D (ЗША, 2014, 2 серыі)
1, 3 жніўня – у 16:00
6 жніўня – у 21:00
Цана білета – 50 000 рублёў

Баявік, прыгоды "**Геракл**" 3D (ЗША, 2014)
3 жніўня – у 21:00
2, 6 жніўня – в 16:00
1, 5 жніўня – у 18:30
Цана білета – 55 000 рублёў

Фантастычны баявік, прыгоды "**Вартавыя Галактыкі**" 3D (ЗША, 2014)
1, 4, 5 жніўня – у 21:00
2 жніўня – у 18:30, 21:00
3, 6 жніўня – у 18:30
Цана білета – 55 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Прыгоды мышаняці**" (Перу, 2013)
1 жніўня – у 16:30
2 жніўня – у 15:00
Цана білета – 15 000 рублёў

Анімацыя "**Олі і скарб піратаў**" (ЗША, 2013)
3 жніўня – у 15:00
5, 6, 7 жніўня – у 16:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Меладрама "**Госця**" (ЗША, 2013)
1, 2, 3 жніўня – у 19:00, 21:30
4, 5, 6, 7 жніўня – у 21:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

### Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя "**Падарунак з характарам**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
1, 2, 3, 6, 7 жніўня – у 18:00
Кошт білета – 30 000 рублёў

Трылер "**Трывожны выклік**" (ЗША, дазволены для паказу гледачам з 16 год)
1, 2, 3, 6, 7 жніўня – у 18:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Лясны патруль**" (Нарвегія, без узроставых абмежаванняў)
2, 3 жніўня – у 15:00
Кошт білета – 15 000 рублёў

Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

## ● ГАРАСКОП (1-7 ЖНІЎНЯ)


**Авен.** Будзьце ў добрым настроі, аптымізм яшчэ нікому не перашкаджаў. Не спяшайцеся паспець усё і адразу: тое, што лёс прызначыў менавіта вам, ад вас нікуды не дзенецца.


**Цялец.** Спыніце адносіны з людзьмі, якія перашкаджаюць вам вучыцца, жыць і працаваць. Вам трэба набрацца сіл, упэўненасці ў сабе і цвёрда сказаць ім "не".


**Блізняты.** Не давярайце малазнаёмым людзям, бо менавіта з-за іх могуць адбыцца канфлікты. Рабіце зберажэнні і трацьце грошы з розумам.


**Рак.** Каб шмат паспець, не варта доўга думаць – адразу бярыце быка за рогі! У зносінах з людзьмі праяўляйце гнуткасць. Не насміхайцеся і не рабіце ім заўвагі.


**Леў.** Бярыцеся за складаныя задачы і верце ў тое, што ўсе цяжкасці ўдасца пераадолець. Рабіце тое, што вам падабаецца, і не бойцеся гаварыць "не" нават блізкім людзям.


**Дзева.** Калі не будзеце звяртаць увагу на здароўе, то ёсць верагоднасць, што не ўсе планы здзейсняцца. А ад таго, як будзеце сябе адчуваць, залежаць шчасце ў асабістым жыцці, поспех, кар'ера.


**Шалі.** Вядзіце здаровы лад жыцця. Будзьце цярплівыя і чэсныя ў адносінах да сябе і навакольных, і ўдача не прымусіць сябе чакаць.


**Скарпіён.** Зоркі прадракаюць вам духоўны пад'ём. Шмат хто зразумее, што жыў няправільна, пераасэнсуе сваё жыццё, даруе крыўды і сам папросіць даравання ў тых, каго раней пакрыўдзіў.


**Стралец.** Мары фарміруюць рэальнасць. Уявіце сабе: вашы жаданні здзейсніліся, і вас перапаўняе шчасце. Не сядзіце на месцы, прадпрымайце рашучыя крокі, каб нечага дасягнуць.


**Казярог.** Верце ў сябе, не губляйце ўпэўненасці. Успрымайце любыя абставіны як удачу. І не прытрымлівайцеся ніякіх планаў.


**Вадалей.** Не займайцеся самаедствам і не злуйцеся, калі штосьці перастане атрымлівацца. Не прыніжайце сябе, і вы даб'яцеся вялікага поспеху. Добра думайце пра сябе.


**Рыбы.** Радуйцеся падарункам лёсу і прымнажайце іх. Не бярыце на сябе абавязацельствы, якія высмоктваюць з вас энергію.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991–7155
9 771991 715006

Камент-эксперт
Rh.by
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Тэлетыдзень

## ● НАДВОР'Е

**2 жніўня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Мінск** | +22 +32 | | +21 +33 | | +20 +33 | | +22 +31 | |
| | 740 | → 2 | 742 | ↗ 1 | 744 | ↖ 2 | 744 | ← 3 |
| **Вільня** | +22 +25 | | +22 +32 | | +22 +34 | | +21 +33 | |
| | 745 | ↓ 3 | 750 | ← 1 | 752 | ↑ 1 | 751 | ← 2 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 5.27
Захад 21.10
Даўжыня дня 15.43

Усход 12.35
Захад 23.09
Квадра 2




## ● ПРЫКМЕТЫ

- Ілля (2 жніўня). На Іллю да абела лета, пасля абеду – восень. Ілля лета скончае. Ад Іллі перастаюць кусаць камары, але пачынаюцца халодныя раніцы.

## Чытайце праз тыдзень:

- **30 ліпеня ў Маладзечанскім пажарным аварыйна-выратавальным атрадзе адбыліся абласныя спаборніцтвы на выяўленне лепшай змены. Якімі рэкордамі здзівілі 23 каманды з 9 раёнаў Мінскай вобласці – у "РГ" праз тыдзень.**

## Ляпы футбольных каментатараў

- Бакавы арбітр прымае прыгожыя позы. Магчыма, ён раней займаўся балетам.
- Да мяча адначасова пацягнуліся рукі галкіпера і лысіна Фабрэгаса.
- Замест таго каб у футбол гуляць, ішлі б бутэлькі здаваць!
- Футбалістам лёгка бегаць па полі, а ты паспрабуй разумна праканентаваць іх дзеянні.

● ГІСТОРЫЯ

## Выберуць найлепшы краязнаўчы фільм

**ВІЛЕЙКА. "Гэта мой край!". Так называецца трэцяе рэгіянальнае свята-конкурс аматарскага краязнаўчага фільма.**

Пройдзе яно ў Вілейскім раёне ад 1 да 27 верасня.

Прымеркаваны конкурс да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 100-годдзя пачатку Першай сусветнай вайны.

Удзел могуць прыняць як установы і арганізацыі, так і індывідуальныя аўтары і творчыя групы.

Адборачны тур працягнецца да 15 верасня. Па выніках яго вызначаць лепшыя фільмы, якія прымуць удзел у заключным этапе – конкурсным праглядзе. Ён пройдзе 27 верасня.

Для ўдзелу неабходна падаць заяўку на электронны пошце vileyka.rmcnt@mail.ru, ok-vileyka@mail.ru. А яшчэ даслаць да 15 верасня DVD з запісам фільма працягласцю да 15 хвілін. Адрас такі: *222410, Вілейка, вуліца Партызанская, 44, Вілейскі раённы Савет дэпутатаў.* Даведкі па нумарах: **(8-01771) 5-52-62, 5-57-47, 56-0-77.**

Па выніках конкурсу ўручаць галоўны прыз "За лепшы аматарскі краязнаўчы фільм". Таксама прадугледзелі спецыяльныя прызы "За адлюстраванне гістарычных падзей Першай сусветнай вайны на тэрыторыі роднага краю", "Вялікая Айчынная вайна. Падзеі. Лёсы. Памяць".

**Аддзел інфармацыі.**

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Што вы ведаеце пра Першую сусветную вайну?



**Пётр Башкіраў, слесар-станочнік:**

– Дзед быў родам з Сівіцы, ён ваяваў. Расказваў пра шпіталь, што знаходзіўся ў Маладзечне на тым месцы, дзе цяпер сёмая школа.



**Дзмітры Кісель, электрык:**

– Пра Першую сусветную ведаю, што яна была даўно, у 1914 годзе. Не памятаю, каб хтосьці са сваякоў расказваў пра яе. Пра Другую сусветную мае веды значна большыя.



**Ларыса Савельева, фінансавы работнік:**

– Я тады яшчэ не нарадзілася, ды і мае мама з татам таксама. А дзед мой Іван Міхасёнак ваяваў пад Смаргонню. Ён быў стрыечным братам генерала Міхасёнка, таго самага, што вызваляў Маладзечна.



**Юры Надудзік, юрыст:**

– Сям'ю майго дзядулі эвакуявалі ў Растоў. Эвакуацыя была не стыхійная, як у час Вялікай Айчыннай. Сем'ям, якія апынуліся на акупаванай тэрыторыі, давалі цэлы вагон, каб яны маглі туды пагрузіць увесь хатні скарб і свойскую жывёлу. Хто адмаўляўся браць жывёлу, таму выплачвалі за яе золата.



**Кацярына Дудко, супрацоўніца Палаца культуры:**

– Пра Першую сусветную сказаць нічога не магу. Вельмі даўно яна была. А пра Другую, пытайцеся, калі ласка. Мая бабуля ў вайну партызанам насіла ў кошыку запіскі. Вось такі штодзённы подзвіг.



**Паліна Чарняўская, школьніца, скончыла 8 класаў:**

– Я пра Першую сусветную вайну не ведаю нічога. Мы ў школе пакуль толькі да Рэчы Паспалітай дайшлі па праграме.



**Аляксандр Крэнць, настаўнік гісторыі:**

– Пра вайну ведаю амаль усё, што ёсць у школьнай праграме. Маю сям'ю вайна таксама не абмінула. Бацька майго бацькі ваяваў. Расказваў цікавыя выпадкі. Вядома, што Першая сусветная была акопнай вайной. Дзядуля прыгадваў, што рускія і нямецкія салдаты нават сябравалі адзін з адным, у тайне ад камандавання хадзілі адзін да аднаго.

**Падрыхтавалі Настасся РОЎДА і Наталля ТУР.**



Рэгіянальная газета. Rh.by Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 31 (1005) 1.08.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02385 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 643. Падпісана ў друк у 10.00 31.07.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.